facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2023-02-23)

# (20+) Facebook

---

ЦІ ВАРТА ПРЫСЛУХОВАЦЦА, ЯК КАШЛЯЮЦЬ ПРАПАГАНДЫСЦКІЯ БЛОХІ? СЯБРОЎСКАЯ УСМЕШКА НА РЭПЛІКУ-ПАПРОК РУСЛАНА ЛОБАВА, ШТО СССР НЕ “РАЗВАЛІЎСЯ”, А “РАСПАЎСЯ”… ТАКОЕ ЎЖЫВАННЕ СЛОВА НЕДАПУШЧАЛЬНАЕ ДЛЯ БЫЛОГА АМБАСАДАРА...

Пішу тэкст на сваёй “агульнай” стужцы, а не ў суполцы “Толькі пра мову”, бо тут я пераходжу на асобы і трохі геапалітыку, што не адпавядае яе фармату.

Учора, 22-га лютага, пасля публікацыі ў ФБ майго тэксту пра вывад “рускіх войскаў” з Германіі, атрымаў я даволі сур’ёзны ушчуванак ад сябры Руслана Лобава.

Вось наша перапіска:

Лобаў; “Чаму ж таксама "развал" СССР, шаноўны Пётра Вікенцьевіч? Калі і пан беларускі пасол піша развал замест распад, як звычайна кажуць прыхільнікі СССР і рэваншысты, дык што патрабаваць тады ад простага люду?...

Я: У вас стагі , капешкі, сцірты, торпы ніколі не РАЗВАЛЬВАЛІСЯ?))?

Лобаў: “Не ў той бок параўнаньні. Калі "развал", значыцца, нехта "разваліў". А хто разваліў? Значыцца, ворагі, здраднікі. Тут ў іх асацыяцыі простыя - развал-разваліў-здрадніцтва-зло. Канатацыя са словам "развал" адназначна негатыўная. Я змагаюся з гэтым словам [дакладней з словаўжываньнем] з усімі і праўлю, калі ёсьць магчымасьць. Выбачайце, калі ласка.

Я: Поспехаў Вам у змаганні!

Больш я не каментаваў і не спрачаўся.

Я, як мне здаецца, не знаёмы асабіста са сп. Лобавым, але даю адказ таму, што з даведкі пра сябра ФБ Руслана Лобава і ягонай кароткай заўвагі вынікае, што ён філалагічна падрыхтаваная асоба (ведае, што такое “адмоўная” канатацыя”, вывучаў некалькі замежных моў і г. д.) і фармулюе сваю заўвагу абдумана … ЗМАГАЕЦЦА З УСІМІ І ПРАВІЦЬ ...

Перш патлумачу, што такое “тарпА” ў маёй гаворцы. Я ўжыў форму множнага ліку – ТОРПЫ. Стог, капешка, сціртa, скірда – больш-менш агульна вядомыя словы. Тарпа – гэта вялікая сціртa снапоў, саломы або сена, складзеная асобым спосабам для захоўвання пад адкрытым небам. (ТСБМ). Абмяжуюся гэтым азначэннем. Калі грунтоўна, -- яно недакладнае.

Яшчэ адна лінгвістычная заўвага. Калі сп. Лобаў разважае пра марфалогію (словаўтварэнне) варта было б не забывацца, што назоўнікі ўтвараюцца і ад зваротных дзеясловаў, якія не абазначаюць пабочнага АГЕНТА ДЗЕЯННЯ: разваліць (каго?), а самі з'яўляюцца дзейнікам у сказе. Значыць , магчыма не толькі трансфармацыя разваліць-- развал. Але і "разваліцца-- развал= САМАРАЗВАЛ.

Прызнаюся, ужываючы словазлучэнне "Развал савецкага Саюза", я дзіця сваецкага часу, нясу на сабе радзімкі таго часу. . Рэлікты і хібы старога выхавання

. Тут на мяне паўплывалі па-майстэрску пастаўленыя сцэны з савецкага кінафільма “Председатель” з Ульянавым у галоўнай ролі. Там у некаторых СТАГОЎНІКАЎ стагі РАЗВАЛЬВАЛІСЯ не толькі таму, што быў моцны вецер, а таму, што ІХ АБЫ-ЯК, ПАСПЕШЛІВА СТАГАВАЛІ. Тыя, якія былі складзеныя талкова без мітусні і спешкі -- стаялі, "як укапаныя". Такую метафару ўжыў старшыня калгаса Трубнікаў.

Ды і самому мне прыходзілася ПАДАВАЦЬ НА СТОГ трохзубымі віламі з доўгім вілашнікам. Стагі РАЗВАЛЬВАЛІСЯ (не "распадаліся"),

калі іх не ПЛАСЦІЛІ, НЕ РАСКЛАДАЛІ, НЕ ЎТОПТВАЛІ, ЯК СЛЕД. Гэта -- лексіка працэсу стагавання.

І СССР разваліўся, бо быў па-сталінску складзены: усё -- імкліва. "Даешь пятилетку за три года! Усё -- пад расейскі бальшавіцкі таталітарны капыл і дах, з прыгнётам нацыянальных утварэнняў і зніштажэннем ворагаў народу.

Вельмі дарэчы будзе ўжыць слова "распадацца" ў дачыненні да факту знікнення СССР як гепалітычнага суб'екту, калі нейтральна без стылёвых падтэкстаў канстатаваць, што з яго сталася пасля гэтага: "У выніку РАСПАДУ СССР утварылася некалькі новых дэ-юрэ незалежных дзяржаў".

Гэта не была краіна ДЛЯ ЖЫЦЦЯ. Не варожыя ПАДКОПЫ імперыялістаў тут прычына. Яны баяліся і баяцца ашчэраных ракетных боегаловак ад місіянераў, што імкнуцца ашчасліўіць увесь свет. Параўноўваў жа некалі Алесь Адамовіч СССР з Буркіна Фасо, абгароджанай частаколам балістычных ракет.

Паглядзіце, які стадыён яны сабралі ўчора перад днём 23 лютага: не ваюйце з рускімі! Нашы саюзнікі -- Армія і Флот! Так нагадвае гітлераўскія ўсенародныя мітынгі, -- ТБ-гіпнасеанс.

Рэагую на заўвагу сп. Лобава не таму, што хачу апраўдацца і выйсці пераможцам са спрэчкі. Тут закрануты важны прынцып ДРАБНІЦ І БУЙНІЦ пры выбары слова. Не варта ўжо так глыбока буравіць, як сараканожка, якая думае, з якой нагі пачаць рух, а часам варта лёгка пісаць і гаварыць, падсвядома арыентуючыся на жывое слова, калі ты ім валодаеш. Многія карыстальнікі мовы (цяпер звычайна гэта асобы, маладзейшыя за 60 гадоў, якія ўжо не засталі жывой мовы, а вывучылі па кніжках і перайшоўшы з расейскай на беларускую, зрабілі свядомы выбар нацыянальнай самаідэнтыфікацыі). ) ў пошуку дакладнага слова хварэюць на ІДЭАЛАГІЧНЫ ПАТРЫЯТЫЧНЫ ПУРЫЗМ: каб толькі не было падобна на расейскае слова!. А ў нас жа словы “сонца, вада, зямля, трава …” супадаюць! А я-я-я-я … Мне, паўночнаму ўсходніку, гэта вельмі відавочна. Слова “дружбак” – калі ласка! А вось “дружыць” – НІЗЬЗЯ! Ян Скрыган, Максім Лужанін, Уладзімір

Юрэвіч, якія , як і Якуб Колас, былі шчырымі і кампетэнтнымі вартаўнікамі роднага слова, ужывалі “дружыць” побач з “сябраваць”, “таварышаваць” і “быць прыяцелямі”. Мая маці любіла слоўца “драўга” (літуанізм), калі ўшчувала мяне за дружбу з суседзкім распуснікам

.

Паглядзіце на ангельскую і французкую мову ў Канадзе. Гэта не нашы расейска-беларускія геапалітычныя мартальныя абдымкі, але для агульнага разумення праблемы падыходзіць.

Ну і, нарэшце, галоўнае – НАРАДЖАЙЦЕ НОВЫЯ СЭНСЫ НА РОДНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ. Тады і словы нашы зазіхацяць, як евангельскія максімы.

Прыслухоўвацца, як кашляюць блохі азаронкаў – здароўя не хопіць.